
ULTIMATE
SPIDER-MAN®
ISSUE
45
BENDIS
BAGLEY
THIBERT
MARVEL®
.BY
COMICS
КОМІКСЫ ПА-БЕЛАРУСКУ
Сучасны Чалавек-павук
№45 (2000)
пераклад і афармленне:
Козыраў Сяргей


70 YEARS OF MARVEL COMICS
© 2010 Marvel Characters, Inc. All rights reserved. All characters featured in this issue and the distinctive names and likenesses thereof, and all related indicia are trademarks of Marvel Characters, Inc. No similarity between any of the names, characters, persons, and/or institutions in this magazine with those of any living or dead person or institution is intended, and any such similarity which may exist is purely coincidental.
© 2010 Marvel Characters, Inc. All rights reserved.
WWW.MARVEL.COM
HotComic.net


Добра...
Мэй...
Як прайшла ноч?
Як ваш пляменнік Пітар?
Шчыра кажучы...
Мы... трохі пасварыліся.



Мне патэлефанавалі.
Эвакуіравалі школу Пітара, уяўляеце? **Эвакуіравалі**.
**Штосьці здарылася** ў суседняй школе, таму адмянілі заняткі... на ўсякі выпадак.
Я як звар'яцелая збегла з працы, нават не папярэдзіўшы шэфа. Паімчалася за Пітарам...
...але высветлілася, што яго **няма** ў школе.
Яго не было на працы, не было дома.
Яго нідзе не было.
Потым... патэлефанаваў настаўнік... Пітара не было на ўроку да эвакуацыі.
Ён прагуляў **урок**. Ох-ох.
Прагуляў, і я нідзе не магла яго знайсці.
Я была раззлавана.
**Раз'юшана**.
Нам трэба пагаварыць.
Калі ён, нарэшце, прыйшоў, я... выбухнула нібы атамная бомба.
Дзе ты быў?!!
Я...
Не брашы!!! Кажы, дзе ты быў!!!




Аддай!!!
Гэй! Не! Што ты...?
Спыніся!
Я хочу ведаць, чым ты быў так заняты ўвесь дзень, што не пайшоў нават у школу!!!
Не, я...
Гэта ўжо не першы раз, калі я хвалююся аб тым, дзе ты...
Хопіць!
Я хачу, каб ты...
Адпусці!
Скажы мне, што ты!..
CLUMP



The Merry Adventure of Robin Hood
by Howard Pyle
Я... ведаю гэту кнігу.
Яна мамчына.
Гэта...
Я знайшоў яе сярод старых рэчаў.
Успомніў, як мама чытала яе мне, і вырашыў пачытаць сам.
Дык вось, чым ты быў заняты сёння?
Я быў на гульнявой пляцоўцы.
І чытаў кнігу?
А ты што **падумала**?
Чаму цябе не было ў **школе**? Ты павінен быў быць **там**.
Мне не **хацелася**.
**«Не хацелася»**? Гэта не...
Я прапусціў толькі геаметрыю.
Я вывучыў усе тэмы гэтай чвэрці. Усе. У мяне заўсёды выдатныя адзнакі.
Мне хацелася па-чытаць, а ў школе прымусілі б проста **сядзець**.
Я рэдка так раблю.
Калі... захоплены чытаннем.
Пітар, ты напужаў мяне да смерці.
Калі б я ведаў, што заняткі адменяць, я пабег бы прама дадому.
Але я ня ведаў.
Ня ведаў.
Клянуся, больш такога не паўтарыцца.
Я дума-ла, што ты загінуў.
Але я жывы.


Гэта было жудасна...
Вы падумалі, што Пітар зрабіў нешта дрэннае?
Магчыма...
Баіцеся, што ён ужывае наркотыкі?
Не.
Не.
Разумееце... Гэта... Оооох.
Цяжка сказаць услых.
Гэта...
Чалавек-павук.
Чалавек-павук?
Так.
А што з ім?
Я яшчэ...
Не распавядала вам... Гэта здарыла-ся два тыдні назад.
Я... пайшла за пакупкамі пад час абеду...


TAKE 'EM ALL!!
AAHH!
Ідыёты! Прэч...
YAAGGHH!
AAHH!
BOOYAAH!!
ZZAAZZTTT


Не магу паверыць! Мне прыйшлося цягнуцца ў такую далечыню... дзеля гэтага?
GAAAHH!
Прэч ад вітрыны!
CRASH
AAAHEEE!
О божа!


І ў такім свеце я жыву? У свеце, дзе прыходзіцца кожны раз хвалявацца за Пітара.
Я нічога **не разумею**.
Ведаю, я не павінна хвалявацца аб рэчах, якія не магу кантраляваць. Я разумею, што не магу кіраваць светам.
Але...
Кожны раз, калі Пітар уходзіць з дому, я...
**Скаланаюся** ад думкі, што нейкі мутант ці... Чалавек-павук...
Гэта не толькі гвалт ці... злыя людзі.
Гэта хаос... **Дом для звар'яцелых**.
Разумееце? Вайна, тэрарызм, гвалт, усё разам.
Людзі, якія носяцца ў **трыко** і робяць, **што пажадаюць**.
**Усё... Калі** пажадаюць.
А яшчэ Чалавек-павук... з ім штосьці ня так.
Вакол шмат шаленцаў... Але ён - **асаблівы**.
Чаму вас так турбуе гэты Чалавек-павук?
Разумееце? Я чую яго імя **кожны дзень**.
Мой сусед упэўнены, што ён жыве ў нашым раёне.
Усе ўзіраюцца на яго.
Калі ён праносіцца міма.
Гэта відовішча.
Уяўляеце? Магчыма, ён - адзін з маіх суседзяў.
Ня ведаю дакладна, у чым справа, але мне гэта не патрэбна.
Ня трэба.
Не хачу, каб у маім жыцці быў Чалавек-павук!
Не хачу хвалявацца, што ён зробіць штосьці...
...і гэта неяк, няхай нават ускосна, пашкодзіць Пітару.
Чаму менавіта Чалавек-павук хвалюе вас?.. З-за здарэння ў гандлёвым цэнтры?
Не толькі.
Ён **працягвае... нечакана з'яўляцца**.


Па-першае, Чалавек-павук мае дачыненне да нападзення на школу Пітара.
(Нам так і не расказалі ўсю праўду), але было нападзенне з яго ўдзелам.
Ніхто не папакутаваў. Магчыма, ён як раз выратаваў дзяцей.
Потым, як вы ведаеце, хтосьці апрануты як Чалавек-павук, забіў майго сябра.
Я ня ведаю, ці гэта быў ён, ці не...
У навінах казалі: не. Проста хлопец у такім жа касцюме.
Вось так.
Але чалавек, які забіў майго Бэна...
У паліцыі сказалі, што ў тую ноч хтосьці дабраўся да яго першым.
Яны ня бачылі яго і ня ведаюць, хто гэта быў.
Мабыць зноў Чалавек-павук? Ня ведаю.
Але цяпер, улічваючы ўсё пералічанае...
Мяркую, гэта магчыма.
Чаму хлопец апранае маскарадны касцюм і робіць усё гэта?
Гэта вышэй майго разумення.
Я не разумею і... **цяпер я хвалююся**, бо Пітар зараз у такім узросце, калі хочацца быць самастойным.
Ён такі ж, як яго бацька. Як яго няшчасны бацька.
Гэты чалавек мог уйсці **пасярод размовы**, увесь у навуковым роздуме.
Што мне рабіць?
Чаму я была такой грубіянскай з Пітарам?
Няўжо трэба караць яго за жаданне прачытаць кнігу? Што ж рабіць?
У хлопчыка проста такі ўзрост. Я не сярдую на яго з-за чытання.
Я нават не сярдую, што ён прагуляў урок.
Я... у мяне быў нервовы зрыў, бо я спужалася. Я падумала, што **Чалавек-павук** прычыніў яму шкоду.
Няўжо гэта нармальна?
Гэта - утрапёнасць
У жыцці ўсё можа здарыцца. А ў мяне істэрыка з-за таго, што **Чалавек-павук** мог дабрацца да Пітара.
Не таму, што хлопчык мог патрапіць пад аўтобус ці яго абрабавалі ў метро, ці яго ўдарыла маланка.
Я хвалююся з-за хлопца ў трыко.
Я...
Охх...
Дазвольце спытаць...
Усё яшчэ адчуваеце віну за тое, што звярнуліся да псіхатэрапеўта?
Так...
Дзесяць гадоў назад памерла мая сястра.
Яна была маёй лепшай сяброўкай, але я не пайшла да псіхатэрапеўта.
У мінулым годзе забілі майго мужа.
Бесчалавечна... прама на маіх вачах.
**Муж** загінуў, але я не пайшла да псіхатэрапеўта.
Чаму я прыйшла да вас?
З-за чалавека, якога амаль ведала...
Капітана паліцыі?
Капітана Стэйсі.
Мужчына, з якім я размаўляла некалькі разоў у жыцці, загінуў.
Я вырашыла звярнуцца да псіхатэрапеўта.
Бо са мной штосьці ня так.
Мне ўсё надакучыла.


Як з'яўляецца гэта пачуццё?
Гвен.
Гвен Стэйсі?
Дачка капітана паліцыі... Дзяўчына, якую вы ўзялі да сабе?
Я правільна зразумела?
Так.
Я карыстаюся ёю.
Па-іншаму і не скажаш.
**Карыстаюся.**
Як?
Дзяўчына страціла бацьку. Маці яе кінула.
Я ўзяла яе да сабе... з вялікадушнасці.
Але на самой справе... яна патрэбна **мне**.
Не я ёй. А яна **мне**.
Яна патрэбна мне, каб было з кім правесці вечар, бо...
Ммфф.
Калі я застануся сам-насам са сваімі думкамі...
(Да мяне прыйдуць здані.)
Здані?


О так. У мяне ёсць здані.
Яны не размаўляюць, нічога не робяць.
Я іх ня бачу.
Я не настолькі вар'яцкая.
Але, калі ціха...
...Я ведаю, яны - там.
Дык вось, я карыстаюся дзяўчынай.
Я прывяла яе ў дом, падмануўшы дабрынёй... Я зрабіла гэта, каб шум у доме заглушыў...
...цішыню.
Але Мэй...
Паслухайце...
Пітар знайшоў касету.
Старую відэакасету, дзе ўсе мы на пікніку... дванаццаць гадоў назад.
Я нават не памятаю, што была на тым пікніку.
І што там на касеце?
Мае здані.


Бэн.
Мой муж.
Маленькі Пітар. Нашыя сябры.
Я зірнула на людзей на гэтай касеце, і маёй першай думкай было...
...О божа, гэта мая кара.
**Зараз**... маё жыццё - маркотнае, змрочнае. Балючая пародыя мінулага жыцця.
Тая жанчына на касеце была **закахана**, і... у яе была **сям'я**.
Чаму гэта **здарылася** са мной? За што?
Чаму я не магу **пакахаць** чалавека і не страціць яго?
...О божа... Я азіраюся і разумею, што самотная.
Вы не самотная, Мэй.
У вас ёсць сябры.
Пітар.
Я **адштурхваю** Пітара.
Так.
Я **выкарыстоўваю** любую магчымасць, каб прымусіць яго ўйсці з дому... Я выстаўляю яго за дзьверы.
А калі ён прыходзіць дадому, я крытыкую яго, абвінавачваю.
Чалавек-павук? Мне... абыякавы **Чалавек-павук**.
Я...


Разумееце...
У Пітара ёсць дзяўчына... Мэры Джэйн...
Ён ня ведае, але з дзяцінства, з першага дня, як ён пераехаў да нас...
Я правяраю яго.
Кожны вечар.
У апошні час... яго часта не бывае дома.
Ён уцякае праз вакно на вуліцу, каб сустрэцца з ёю.
У яго ўзросце...
Я збегла з дому і начавала ў нейкім склепе ў Сан-Францыска.
Што ж мне рабіць з яго адлучкамі?
Што я павінна зрабіць?


У яго жыцці было так мала любві, так мала шчасця.
Я **ведаю**, дзеці ў школе здзекваюцца з яго.
Ён - добры. А з такіх... **заўсёды** здзекваюцца.
Як я магу адняць у яго **імгненне** любві ці... шчасця?
Пасля **ўсяго**, што ён перажыў?
Пасля ўсяго, што **згубіў**?
Вы баіцеся, што яны зблізіліся?
Паслухайце...
Пітар - разумны хлопчык.
У нас была размова на гэтую тэму. Спадзяюся, ён усё зразумеў.
Сутнасць у тым, што я дазваляю яму выслізгваць сярод ночы.
Працаваць у горадзе. У гэтым горадзе.
Прыходзіць і уходзіць, калі заўгодна. Зачыняцца ў гэтым склепе, бог ведае навошта...
Я дазваляю яму рабіць усё, што ён хоча, і ганаруся, што так **вольна і адкрыта... выхоўваю яго**.
А потым накідваюся на яго за тое, што ён карыстаецца свабодай, якую сама яму дала.
Але на самой справе...
Я адштурхоўваю яго... наўмысна.
Таму што я ведаю: калі падпушчу яго занадта блізка...
...ён...
**...загіне!**
Як усе астатнія.


Мэй, вы сапраўды лічыце, што ваша любоў?..
Напэўна, не.
Калі я падключаю логіку... я **разумею**, гэта глупства.
Я **не** звар'яцелая.
Канешне, тут няма сувязі, але я нічога не магу зрабіць... з **маімі думкамі**...
Перш за ўсё, пра Чалавека-павука.
Не магу **не думаць аб ім**.
Не хачу, каб Пітар загінуў.
Я яго люблю.
Вельмі.
Але... рэдка кажу яму аб гэтым.
Хоць я і цётачка-квактуха, я не хачу песціць яго.
А потым, раптам, я **пачынаю істэрыку**, крычу і злуюся, калі не магу знайсці яго за дзве секунды.
Гэтую дзяўчынку, Гвен, я выкарыстоўваю, каб песціць і клапаціцца.
Выкарыстоўваю... бо...
Я - **дрэнны** чалавек, няўжо вы не бачыце?
Я адштурхваю людзей, якіх люблю, і аддаю любоў староннім.
Я - **дрэнны** чалавек.
Ну...
Лічу, вы занадта строга да сабе ставіцеся, Мэй.


Мэй...
Трагічныя падзеі ў вашым жыцці...
Не вініце сябе за тое, што прыйшлі і гаворыце пра іх.
Не вініце сябе за вашыя пачуцці.
Вы многае перажылі.
Я хачу звярнуць вашу ўвагу на спосаб, які вы абралі, каб **зладзіць** з бядой - вы працягнулі руку дапамогі.
Вы маглі стаць абыякавай, спіцца...
...усё, што заўгодна.
А вы... узялі ў свой дом **сірату**.
Большасць людзей **ніколі** не зрабілі б гэтага.
Я кажу гэта не для таго, каб суцешыць вас. Я сапраўды так лічу.
Магчыма, вы выратавалі дзяўчынцы жыццё.
Яна патрэбна вам так сама, як вы ёй? Магчыма.
Гэта азначае быць часткай цывілізацыі.
Нашага грамадства.
Людзі патрэбныя адзін аднаму. Гэта нармальна.
Але я лічу, вам варта больш размаўляць з Пітарам.
**Падзяліцеся** сваёй трагедыяй.
Магчыма, ён сутыкаецца з такімі рэчамі... з падобнымі праблемамі.
Магчыма, гэта **дапаможа** яму... Ён адчуе сябе лепш, даведаўшыся, што вы перажывае такія ж пачуцці.


Наш час скончыўся...
Але я хачу сказаць... Трэба разабрацца з вашым пачуццём віны за **раманчыные** стаўлянне да паліцэйскага.
Змірыцеся з яго раптоўнай смерцю... гэта проста... трагічны збег акалічнасцяў.
Вось і ўсё.
Але, з іншага боку, зараз...
Ваш інтарэс да мужчыны - **карысны і неабходны**.
Жыццё працягваецца, Мэй.
Што тычыцца Чалавека-павука, у гэтым штосьці ёсць. Але мы можам пагутарыць аб ім у наступны раз.
Ведайце: вы - значна лепш, чым лічыце.
Я павінна быць лепш.


Прывітанне, Пітар.
Хай.
Як праца?
Надакучыла.
Патрапіў пад дождж?
Так.
Дзе Гвен?
Ня ведаю.
Як ты?
Нармальна.
Слухай!
Хочаш пайсці на спатканне са сваёй старой цётачкай?
На спат-канне?
Прама зараз. Пойдзем.
Сходзім у кіно, замовім піцу.
Толькі ты і я.


Дык у мяне ўрокі.
Сёння... ты іх не зробіш.
Так можна?
Адзін раз можна сабе гэта дазволіць.
Які фільм?
Ды якая розніца? Яны ўсе жудасныя.
Прама зараз!